У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (847) ГОД XVII БЕЛАСТОК 21 МАЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


## ЗЭТЭМЭСАЎСКІ ПАТРАНАТ

Будаўніцтва жылых дамоў — адно з найбольш пільных задач нашага часу. Новыя кватэры патрэбны перш за ўсё маладым людзям, якія закладаюць новыя сем'і. Калісь нават хтосьці сказаў, што зараз маладыя людзі маюць горш, чым дзесяць год таму назад. Справа проста выглядае так, што час чакання кватэры ў кааператыве з кожным годам павялічваўся, а ў некаторых гарадах даходзіла да дзесяці і больш гадоў. Лёгка палічыць, што сітуацыя была няраз бязвыхаднай.

У святле апошніх рашэнняў партыі будаўніцтва кватэр сталася справай першапланавай. Моладзь з ЗМС пастанавіла ўзяць патранат над будаўніцтвам.

Беластоцкая арганізацыя ЗМС прааналізавала жыллёвую сітуацыю ў ваяводстве. Праведзена шэраг дыскусій, звязаных з падрыхтоўкай кадраў для будаўніцтва, з папраўкай якасці і тэрміновасці аддаваных у карыстанне памяшканняў і г.д.

У чэрвені мінулага года Ваяводскае праўленне ЗМС падпісала пагадненне з будаўлянымі ўладамі і ўладамі беластоцкіх жыллёвых кааператываў адносна патранату. Створаны ваяводскі патранацкі штаб. Пакуль што такія штабы існуюць толькі ў Беластоку, Ломжы, Элку і Сувалках.

У патранацкую акцыю найбольш рашуча ўключыліся зэтэмэсаўцы з горада Беластока. У верасні мінулага года падпісана пагадненне з Беластоцкім жыллёвым кааператывам (БСМ). Пагадненне прадугледжвае пабудову жылога дома для 45 сем'яў. Добразычліва прынялі маладыя форму адпрацавання 1/3 памяшкальнага ўкладу. Зараз працуюць яны не толькі пры будове свайго блёку, але ўсюды там, дзе іх кваліфікацыі і сілы прыдатныя. Зрэшты, як гаворыць

Працяг на стар. 4



*Цэлы свет роднай вёскі замкнуў Наумюк у сваёй разьбе* (Чытайце на стар. 5 артыкул «Уладзімір Наумюк і яго разьба»).

## БГКТ ХРОНІКА

■ 4 мая прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пастанавіў: а) цэлы месяц май у суботы і нядзелі арганізоўваць канцэрты эстрады «Лявоніхі» для прадпрыемстваў нашага горада, б) арганізаваць у канцы чэрвеня акадэмію з мастацкай часткай з нагоды 90 гадавіны з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка Я. Купалы, в) зрабіць выстаўку твораў Янкі Купалы, г) арганізаваць урачысты Купалаўскі вечар на адным з прадпрыемстваў горада, д) упарадкаваць бібліятэку — гэта значыць, папоўніць яе новымі кніжкамі і перадаць школам, дзе выкладаецца беларуская мова, тыя кніжкі, якіх ёсць у бібліятэцы больш як два экземпляры, е) больш увагі прысвяціць працы харавога калектыву, які ў апошні час слаба працуе.

■ 5 мая на сваім пасяджэнні прэзідыум бельскага аддзела БГКТ абмеркаваў справы, звязаныя з арганізацыяй 4 чэрвеня народнага фэсту. У пасяджэнні прэзідыума прымалі ўдзел прадстаўнікі вёскі Паўлы, якія звярнуліся з просьбай, каб фэст адбыўся ў іх вёсцы. Жыхары Паўлаў многа арганізацыйных спраў бяруць на сябе. Разам з фэстам яны хочуць спалучыць адкрыццё святліцы, якая пабудавана ў іх грамадскім чынам. Прэзідыум аддзела прыхіліўся да просьбы паўлаўцаў. Затым сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк паінфармаваў, што ранейшы працаўнік аддзела Вераніка Леанюк адыходзіць на іншую працу, а на яе месца прапануецца працаўнік павятовага праўлення ЗМВ Валя Жменька. Прэзідыум аддзела прыняў гэту прапанову.

■ Па просьбе групы беларусаў з павятовага мястэчка Аўгустоў 7 мая на сустрэчы з імі старшыня і сакратар ГП Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк расказалі аб ролі і працы БГКТ. Прысутныя выразілі ахвоту ўтварыць гурток БГКТ. Дзевяць чалавек падпісалі членскія дэкларацыі і выбралі праўленне гуртка. Старшынёю з'яўляецца Пётр Германюк, сакратаром Уладзімір Войцюк і скарбнікам Хведар Германюк. Гурток БГКТ апрацаваў змястоўны план працы. (мх)

НА ТУРЫСЦКІХ МАРШРУТАХ




Турыстычны сезон амаль пачаўся. Сёлета Гайнаўка асабліва старанна рыхтуецца прымаць турыстаў. Яшчэ ў сакавіку прэзідыумы гарадской і павятовай рад абмеркавалі, што і як трэба зрабіць, каб як найлепш прымаць цікаўных гасцей-турыстаў, і каб Гайнаўка, як сказаў тав. Казбярук, старшыня павятовага камітэта фізічнай культуры і турызму, не была толькі варотамі ў Белавежу, а самастойным аб'ектам для турыстаў.

Усе ўстановы горада актыўна рыхтаваліся да турыстычнага сезона ўжо ад першых веснавых дзён. Падзялілі паміж сабою абавязкі, прадумалі, як лепш абслугоўваць гасцей.

Сёлета будзе значна павялічана колькасць турыстычных прылад у гайнаўскай і белавежскай выпазычальнях. Да 15 мая павінен быў закончыцца перапіс прыватных кватэр для турыстаў на турысцкіх маршрутах у такіх мясцовасцях, як Белавежа, Гайнаўка, Нарва, Нараўка, Дубіны, Буды, Тэраміскі, Пагарэльцы і іншыя.

Вялікая ўвага звернута на лепшае забеспячэнне турыстаў харчавымі прадуктамі і на інфармацыю для турыста.

Да пачатку турыстычнага сезона Белавежскі нацыянальны парк абавязаўся адкрыць для турыстаў Музей прыроды, які будзе цяпер размяшчацца ў турыстычным комплексе «Іва». Будзе таксама арганізаваны інфармацыйны пункт для замежных турыстаў, дзе будзе працаваць чалавек, добра ведаючы нямецкую мову.

Гайнаўская гастраномія абяцала пашырыць сетку так званай малой гастраноміі, арганізуючы шэраг малых пунктаў абслугі ўздоўж турыстычных маршрутаў.

Камітэт КФіТ запланаваў на гэты турыстычны сезон новыя формы турызму па Белавежскай пушчы. Турыстаў трэба прывозіць у вызначаныя месцы аўтобусам, і там будуць пачынацца маршруты для пешых і веласіпедыстаў. Закуплена ўжо партыя новых веласіпедаў. На пачатках турысцкіх маршрутаў будуць зроблены выпазычальні турыстычных прылад. Далей турысты разам з праваднікамі пойдуць ці паедуць веласіпедамі па вузкіх пушчанскіх сцежках туды, дзе рэдка ступае нага чалавека. Сцежак такіх у Белавежскай пушчы вельмі многа, і кожная з іх хавае ў дзікай пушчы свае таямніцы, вядомыя толькі працаўнікам Белавежскага запаведніка.

Аднак для гэтай формы турызму патрэбны аўтобус, хоць бы адзін. Але яго няма. Чым жа давозіць турыстаў?

Гайнаўскія ўстановы, якія павінны абслугоўваць турыстаў, апрацавалі гэтыя новыя, вельмі цікавыя формы турызму, бо паверылі сваім вышэйшым уладам. Чаму ж было не паверыць, калі яны атрымалі пісьмовае паведамленне такога зместу:

„Prezydium WRN — Komitet Kultury Fizycznej i Turystyki w Białymstoku zawiadamia, że w roku 1971 zostały zabezpieczone środki finansowe w wysokości 400 tys. zł do Zarządu Okręgu PTTK z przeznaczeniem na zakup autokaru. W związku z tym należy zwrócić się do Zarządu Okręgu PTTK jako organizacji nadrzędnej o przydział samochodu.

**Białystok, dn. 3.V.1971**

**Przewodniczący Komitetu**
**Czesław Łojko**

На жаль, ніякага аўтобуса гайнаўчане не атрымалі і не прадбачваецца, каб у бліжэйшы час маглі атрымаць.

Сродкі, прызначаныя для Гайнаўкі, Акруговае праўленне ПТТК сапраўды выкарыстала — купіла аўтобус, але перадало яго не Гайнаўцы, а Алецку. Разумеем, што аўтобусаў усюды

(Працяг на стар. 4)

 

Пачатак на стар. 1

## ЗЭТЭМЭСАЎСКІ ПАТРАНАТ

старшыня праўлення БСМ М. Баравік, каб усе яны сходзіліся да аднаго гэтага блёку, паўстаў бы балаган, а важна ж, каб праца была як найбольш карыснай. Першы маладзёжны будынак, які паўстае пры вул. Смольнай і Юравецкай, вырас ужо да чацвертага паверху. Афіцыяльна будынак мае быць перададзены ў карыстанне ў верасні гэтага года, г. зн. яго будова мае працягвацца год. Як будаўнічыя, так і зэтэмэсаўцы пакуль што нічога не гавораць, але ўсё паказвае на тое, што першы патранацкі будынак будзе перададзены ў карыстанне на многа хутчэй.

У ЗМС-е гавораць, што беластоцкая будова з'яўляецца эксперыментальнай. Іменна навучыўшыся тут, ваяводскае праўленне мае намер выйсці шырока з патранацкай справай да ўсіх кааператываў ваяводства.

Нельга сказаць, што эксперымент з адным блёкам з'яўляецца адзінай формай патранату. Каб прыняць патранацкія заданні і іх рэалізаваць, 136 зэтэмэсаўцаў пабывала ў спецыяльным лагеры будаўляных. ЗМС узмоцніў прапаганду прафесіі будаўлянага. У выніку гэтага павялічылася зацікаўленне з боку моладзі будаўлянымі гуфцамі працы. Толькі ў мінулым годзе ў будаўніцтве працавала больш 630 асоб.

Патранатам ЗМС ахоплена таксама будова шкаленёвага цэнтра ЗМС у Аўгустове. У рамках гэтай акцыі ў верасні і кастрычніку мінулага года арганізавана восем гуфцаў працы, у якіх прымала ўдзел моладзь з усяго ваяводства.

Зэтэмэсаўская арганізацыя нашага ваяводства вяла таксама акцыю, мэтай якой была справа павышэння рангу будаўлянай прафесіі. Выдадзены інфарматар аб умовах працы і навукі ў школах і на будаўляных прадпрыемствах. Апрача таго, усе зэтэмэсаўскія арганізацыі ў «прызакладовых» школах навязалі сувязь з пачатковымі школамі, дзе знаёмяць моладзь з умовамі працы ў будаўніцтве і з магчымасцямі атрымання гэтай прафесіі.

Зараз беластоцкая арганізацыя ЗМС рыхтуецца да новых форм працы ў будаўніцтве ў рамках праграмы «Моладзь для прагрэсу». Рэалізуючы гэтую праграму, моладзь будзе мець уплыў на паляпшэнне сітуацыі ў гаспадаранні матэрыяламі на будовах.

На падсумаванне патранацкай акцыі яшчэ ранавата. Тое, што робіцца, часта мае характар эксперыменту. Аднак тое, што дагэтуль зроблена, сведчыць аб тым, што акцыя ўданая. Інакш гаворачы, ЗМС мае падставы, каб шырэй прымаць патранацкія заданні. А. К.



У ШКОЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Настаўніца Аня Несцярук дапамагае вучням са Старога Ляўкова (Гайнаўскі павет) знайсці найбольш адпаведную кніжку ў школьнай бібліятэцы. Школьная бібліятэка налічвае каля 2,5 тысяч кніжак. Карыстаюцца з яе кнігазбору ўсе вучні стараляўкоўскай школы.

*Фота: (ЦЯ)*

ПОЛЬСКІ ЧЫРВОНЫ КРЫЖ

## Памажы бліжняму!

Польскі Чырвоны Крыж — адна з найстарэйшых і найбольш заслужаных дабрачынных арганізацый. На Беласточчыне гэта арганізацыя налічвае 2798 турткоў — 175 тыс. 827 членаў. У тым ліку школьных гурткоў 1590 і членаў 111.765.

ПЦК вядзе дзейнасць у такіх галоўных напрамках: I) Санітарная асвета, інакш кажучы, навучанне аб чысціні — асабістай, асяроддзя, хаты і першай дапамозе ў нешчаслівых выпадках. Справы гэта важныя і патрэбныя, а яшчэ далёка недасканалыя ў нас. ПЦК праводзіць масавае навучанне па гэтай праблеме, рыхтуе людзей, якія прапагандуюць чысціню і здароўе. 2) Ганаровае аддаванне крыві. За мінулы год у Беластоцкім ваяводстве людзі аддалі на патрэбы цяжка хворых 1298 літраў крыві. Былі гэта чыгуначнікі, шафёры, энергетыкі, стражакі. Амаль зусім не аддаюць сваёй крыві на патрэбы лячніцтва людзі з вёсак. ПЦК сардэчнымі словамі заклікае ўсіх уключыцца ў гэтую гуманістычную акцыю, тым больш, што запатрабаванне на каштоўны лек — людскую кроў, павялічваецца. 3) Апека над хворымі дома. У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 15 пунктаў апекі над хворымі дома. Пад такой апекай знаходзіцца цяпер 250 цяжка хворых і калек. Апеку і дапамогу ў хату ім нясе 120 сясцёр пагатоўя ПЦК.

Ваяводскае праўленне ПЦК стараецца пашырыць гэтую форму дзейнасці і заклікае жанчын добрага і цярплівага сэрца прайсці спецыяльныя курсы і заняцца гэтай працай. Яна платная — 5 зл. за гадзіну. А курсы на тэму «Як паступаць з хворым дома» вядуцца ў пунктах «Практычная пані», «Навачэсная гаспадыня», у школах і шпіталях.

У сувязі з днямі ПЦК, якія праходзілі ад 8 да 15 мая, ПЦК накіраваў заклік да школьнай моладзі, каб усе гурткі ПЦК, кожны на сваім месцы, заняліся людзьмі старымі і хворымі, каб памагалі ім у цяжкія хвіліны. Няхай ПЦК-оўцы будуць праменнем сонца для нешчаслівых! (вл)

Пачатак на стар. 1




не хапае, і там ён патрэбны. Але Алецк ужо мае і без таго наступнага аўтобуса сродкі транспарту для перавозкі турыстаў. А для Гайнаўкі гэта быў першы і адзіны аўтобус. Цяжка сказаць, як і чым гайнаўчане могуць вазіць турыстаў, як павінны пашыраць найтаннейшыя формы турыстыкі для тых, хто яшчэ не ездзіць уласнай аўтамашынай, а хоча прайсціся пушчанскімі сцежкамі, падыхаць добрым лясным паветрам.

Не ведаю, чым матывавалі гэты крок кіраўнікі Акруговага праўлення ПТТК, але нам здаецца, што Белавежа не такі ўжо нікчэмны аб'ект у параўнанні з ваколіцамі Алецка, і хоць адзін аўтобус для абслугоўвання турыстаў у Гайнаўцы быць павінен.

Здаецца, з гэтага пункту гледжання зыходзіў і Ваяводскі камітэт КФіТ, прызнаючы сродкі на аўтобус для Гайнаўкі і высылаючы ёй паведамленне ў гэтай справе.

Нягледзячы на гэтыя непаладкі, мы спадзяемся, што турысты, якія адважацца накіравацца ў бок Гайнаўкі і Белавежы, не будуць шкадаваць свайго рашэння і будуць добра і хутка абслужаны.

*Я. Чэрнякевіч*

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

ПАВЕЛ ЯЛОЗА

Малады селянін Павел Ялоза — ураджэнец вёскі Старое Беразова (Гайнаўскі павет). Працу на 8-гектаравай гаспадарцы пачаў пасля заканчэння вучобы ў мясцовай сельскагаспадарчай школе (СПР). Збірае ён высокія ўраджаі збожжавых культур і бульбы. Сярэдні ўраджай збожжавых культур у яго 32 цэнтнеры з 1 га зямельных угоддзяў. У мінулым годзе сабраў ён, напрыклад, 40 цэнтнераў ячменю з 1 га і 300 цэнтнераў бульбы з 1 га. Варта адзначыць, што Павел Ялоза мае ўласныя доследныя палеткі. Гадуе ён 4 кароў, у тым ліку 3 дойных, 3 цялят і 11 свіней. Прадае ў сярэднім па 20 літраў малака ў суткі. Для хатняй жывёлы пабудаваў ён новую абору. Пабудаваў таксама новую клуню і зараз пачаў будаваць дом.

Павел Ялоза імкнецца механізаваць усе палявыя працы. Мае ён уласную касілку, сеўнік і г.д., а іншыя сельскагаспадарчыя машыны бярэ ў мясцовым сельскагаспадарчым гуртку, у якім працуе трактарыстам і з'яўляецца шматгадовым скарбнікам. Стараберазоўскі сельгасгурток дасягнуў вялікіх поспехаў у сваёй працы. Кожны з васьмі трактарыстаў выпрацаваў у ім на працягу мінулага года па 1220 гадзін. Працай трактарыстаў задаволены ўсе мясцовыя сяляне. Сельгасгурток выпрацоўвае надвышкі. Частку грошай прызначае ён на маладзёжныя конкурсы. У мінулым годзе арганізаваў ён для ўсіх аднасяльчан бясплатны канцэрт Лодзінскай эстрады.

Павел Ялоза з'яўляецца членам ЗМВ і ЗСЛ.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

ЯН ЧАЧОТ — ЧАСТКА I

Адзін з найвыдатнейшых пісьменнікаў з польска-беларускай школы Ян Чачот нарадзіўся ў Навагрудскім павеце 17.VII.1796 года, памёр 23.VIII.1847 года. У 1815 годзе паступіў разам з Міцкевічам у Віленскі універсітэт. Вучыўся аднак там нядоўга. Пачаў працаваць на Віленшчыне. Аднак утрымоўваў кантакт са студэнцкай моладдзю і прымаў удзел у працы нелегальнай арганізацыі філаматаў. Арганізацыя была выкрыта царскім урадам. Адбыўся суд. Чачот быў засуджаны на ссылку. Пачаткова прабываў ва Уфе, пасля ў Тверы. Чачот вёў сябе ў ссылцы беззаганна, таму мясцовы губернатар падтрымаў яго старанні аб дазволе вярнуцца на радзіму. У пачатку трыццатых гадоў Чачот вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Лепелі і працаваў у праўленні будовы Беразінскага канала. Службовыя абавязкі прымушалі Чачота да частых выездаў. Выезды гэтыя выкарыстоўваў Чачот, між іншым, на збіранне беларускага фальклору. Збіраў, зрэшты, не адзін. Уваходзіў у кантакт з мясцовай шляхтай, заахвочваў да запісаў фальклорных тэкстаў знаёмых паненак. Такім чынам сабраў велізарную, як на тыя часы, колькасць фальклорнага матэрыялу. Матэрыял гэты не заўсёды мае аднак навуковую вартасць. Сам Чачот, не гаворачы ўжо аб яго памагатых, не меў дастатковай сумы фальклорных ведаў. З гэтай прычыны запісваў не дакладна, прыблізна; не заўсёды было вядома, ад каго і ў якой мясцовасці тэкст запісаны. Нягледзячы на гэта, запісы Чачота мелі значнае навуковае і вялікае палітычнае значэнне. Пры нагодзе збору фальклору Чачот стараўся звярнуць увагу землеўласнікаў на народную нядолю і цемру. Звароты палітычнага тыпу да землеўласнікаў выступалі таксама ў творчасці Чачота.

Адкуль у Чачота з'явілася зацікаўленасць беларускім фальклорам і народнасцю? Былі яны вынікам рамантычнай праграмы, прыхільнікам якой з'яўляўся Чачот. Таварыства філаматаў было тыповай рамантычнай арганізацыяй. Сваю мэту бачыла ва ўзбагачэнні цывілізацыі элементамі народнай культуры. Філаматы не абмяжоўвалі сваёй дзейнасці толькі народнай песняй ці казкай. Цікавіліся яны таксама матэрыяльнай культурай народа, абраднасцю, звычаёвасцю, статыстыкай і г.д. Філаматы цікавіліся па сутнасці ўсёй тэрыторыяй, на якой пражывалі беларусы. I так, напрыклад, 8.V.1828 г. Малеўскі на пасяджэнні філаматаў характарызаваў працу М. Рукевіча «Wiadomości o ludności w obwodzie białostockim». Былі выпадкі, калі філаматы цікавіліся таксама фальклорнымі матэрыяламі, звязанымі з украінцамі і літвінамі, аднак галоўным аб'ектам іх зацікаўленасці засталася Беларусь. Ды гэта зусім лагічна, калі зважыць, што галоўныя дзеячы філаматаў, як Ян Чачот і Тамаш Зан, былі сваім паходжаннем звязаны з мясцовай беларускай шляхтай. Беларуская мова не была для іх мовай чужой. Ведалі яе з бацькоўскіх дамоў, з папярэдняга дамашняга акружэння ў дзяцінстве.

Звяртаючыся да беларускай мовы, выкарыстоўваючы яе ў творчасці, і Зан і Чачот не звярталіся да справы штучна прыдуманай. Наадварот, часткова ўзводзілі беларускую мову да таго ранга, які быў ёй належны і з якога яна карысталася ў часы Вялікага княства Літоўскага.

Філаматы даволі часта ўводзілі беларускую мову ў праграмы сваіх пасяджэнняў. Спявалі беларускія песні, аналізавалі склад народнага беларускага верша, шукалі ў вясковай песні адбіцця народнай душы, услухоўваліся ў песенныя мелодыі, шукалі ў іх інспірацыі для творчасці тагачасных кампазітараў, шырока выкарыстоўвалі беларускія прыказкі і прымаўкі, звярталіся да народнай абраднасці, замоваў, забабонаў. У таямнічасці і містычнасці некаторых абрадаў бачылі яны ўзор для ўласных балад, якія таксама былі ўтрыманы ў атмасферы таямнічасці і змрочнасці. Нязвыклыя прыгоды і здарэнні, кантакт жывых і памёршых — усё гэта было пачэрпнута з народнай беларускай фантастычнай песні і казкі.

Філаматы адносіліся да беларускага фальклору досыць свабодна. Іх даследаванні былі пазбаўлены навуковай строгасці. Тлумачыцца гэта тым, што былі яны наогул паэтамі, а не вучонымі. Зрэшты, на пачатку XIX ст. фалькларыстычная навука ставіла яшчэ першыя крокі і не мела выразна акрэсленых формул і прынцыпаў. Філаматы, даследуючы беларускі фальклор, часцей кіраваліся інтуіцыяй, чымсьці ведамі. Найгоршым было тое, што часта папраўлялі фальклор. Удасканальвалі яго. Лічылі, што не ўсё ў ім дасканалае, і таму тое-сёе трэба змяніць і ўпрыгожыць. Нягледзячы на ўсе гэтыя хібы, зрабілі многае і ў галіне збору фальклорных матэрыялаў, і ў галіне выкарыстання іх у сваёй творчасці, і ў галіне спроб навуковага аналізу.

Няма сумненняў, што галоўная роля ў зборы, характарыстыцы і публікацыі беларускага фальклору належыць Яну Чачоту, таму трэба яе больш дэталёва разглядзець.



 

 

# ЯК ВЫКАРЫСТАЦЬ НАДВЫШКІ МАЛАКА?

Малачарская спулдзельчасць у Беластоцкім ваяводстве з'яўляецца перадавой у краіне. За 1971 год заняла яна другое месца ў агульнадзяржаўным сацыялістычным спаборніцтве працы. Зараз 20 акруговых малачарскіх спулдзельняў мае 35 знакаў якасці, у тым ліку тры з іх мае найвышэйшы знак якасці Q. На малачарскіх прадпрыемствах працуе 61 брыгада сацыялістычнай працы.

Зараз, у вясенне-летні перыяд, малачарская спулдзельчасць рыхтуецца да скупкі і перапрацоўкі большых паставак малака. Актуальна ў нашым ваяводстве будуецца або разбудоўваецца 8 казеінярняў, у тым ліку ў Міхалове і ў Заблудове. Ідзе зараз разбудова парашкоўні ў гайнаўскай малачарскай спулдзельні, а таксама праводзіцца мадэрнізацыя беластоцкай спулдзельні. Варта дадаць, што ў гэтым годзе будуць перададзены ў карыстанне два новыя, пасучаснаму абсталяваныя, малачарскія прадпрыемствы ў Кольне і Моньках. Сёлета прыбудзе шмат новых пунктаў скупкі малака. Толькі ў Беластоцкім павеце прыбудзе іх пяць. Дзякуючы пастаўцы большай колькасці малака і мадэрнізацыі малачарскіх спулдзельняў, у гэтым годзе значна павялічыцца прадукцыя малака ў парашку, сыраў, полькрэму і ёгурту.

Зараз заключаюцца шматгадовыя дагаворы з сялянамі на дастаўку малака. Усе тыя сяляне, якія іх ужо заключылі, атрымліваюць дапамогу ў кармах, пры абсталяванні кароўнікаў і ў заатэхнічнай апецы над хатняй жывёлай. (ця)





## УЛАДЗІМІР НАУМЮК І ЯГО РАЗЬБА

Уладзімір Наумюк заняўся разьбой сем год таму назад, хаця палюбіў гэты занятак яшчэ ў дзяцінстве. Тады не меў ён аднак на гэта ні часу, ні ўмоў. Вайна адабрала ў яго бацькоў. Выхаваннем яго занялася бабуля, якая жыла ў бядзе і нястачы. Каб зарабіць на хлеб, Валодзя ад самых ранніх гадоў быў вымушаны цяжка працаваць на гаспадарцы. Яго набытак — 3 гектары зямельных угоддзяў — знаходзіўся аж у 40 кусках. Такая гаспадарка не магла пракарміць сям'і, і таму Валодзя пачынае працаваць «дарыўча». Займаецца цяселькай, а пасля здабывае прафесію электраманцёра. У вольную часіну пачаў выразаць у дрэве фігуркі зуброў, (яго родная вёска Канюкі, што ў Бельскім павеце, знаходзіцца непадалёку ад Белавежскай пушчы). Цяпер Наумюк мае больш вольнага часу. Пасля ліквідацыі цераспалосіцы пачаў куды лепш гаспадарыць. Мае таксама больш вольнага часу на тое, каб развіваць свой талент. Калі верыць словам Наумюка, дык для яго разьба ў дрэве з'яўляецца найлепшым адпачынкам.

Уладзіміру Наумюку 37 год. Мае ён усяго пачатковую адукацыю і ніколі не меў дачынення з вялікім мастацтвам. І хаця і зараз не мае шмат прыхільнікаў для свайго мастацтва ў сваім асяроддзі, то аднак творчасць яго цесна звязана з вёскай, якая з'яўляецца яго галоўным натхненнем у творчых пошуках. Сярод яго фігурак знойдзем поўнага павагі сейбіта, хлапца з цапом, вясковую жанчыну са снапком, пастуха, рыбака, які цягне сець, дзядулю, які пляце кошык з саломы... Цэлы свет роднай вёскі замкнуў Наумюк у сваёй разьбе. Свет селяніна-мужыка, які змагаецца з нястачай, з цяжкасцямі свайго лёсу. Ёсць у яго фігурках шмат меланхоліі і задуменнасці. Цікавай кампазіцыяй з'яўляецца фігурка Пятра і Паўла. Маюць яны твары, спартрэтаваныя з царкоўных ікон. Святыя гэтыя паўсталі пад уплывам колішняга выхавання бабкі. Было ў яе хаце многа абразоў. Ганяла яна дзяцей да малітвы. І гэты след мінулага застаўся ў Валодзі. Засталіся глыбока ў памяці доўгія твары святых, у якіх прасіў ён некалі хлеба і памілавання.

Уладзімір Наумюк не малюе сваіх рэзьбаў. Часта выкарыстоўвае прыродную чароўнасць сырой драўніны — сістэму слаёў, жылак і расколін, якія з'яўляюцца дадатковымі дэкарацыйнымі элементамі. Асабліва захапляюча выглядаюць фігуркі са старога дуба, які пралежаў тысячы гадоў на дне ракі Нарвы і стаў зусім чорны. Наумюк выконвае свае фігуркі не толькі з мяккай ліпы, але і з грушы і дуба. Між Наумюком і драўнінай, мабыць, існуе нейкі тайны дагавор. Драўніна яму пакорная. Усе яго фігуркі выкананы вельмі дакладна. Наумюк не пераймае нічыіх узораў, нічыіх думак, не паддаецца нічыім уплывам. Ён творыць з самой патрэбы сэрца.

У 1970 годзе Уладзімір Наумюк упершыню выслаў свае фігуркі на выстаўку рэгіянальных сувеніраў і атрымаў ўзнагароду. Іменна ад таго часу зацікавілася яго разьбой Беластоцкае аб'яднанне саматужнікаў і народных вытворцаў у Беластоку. У мінулым годзе яго разьба прымала ўдзел у выстаўцы ў Доме селяніна ў Варшаве і атрымала там высокую ацэнку.

*Янка Цялушэцкі*






*Сыдыт Манечка за тэсовым столом*
*З доленькою гадае, з доленькою гадае:*
*— Еслі добрая доленька моя,*
*Едзъ до шлюбу зо мною,*
*Едзъ до шлюбу зо мною.*
*Еслі ліхая доленька моя,*
*Плынь з быстрою водою,*
*Плынь з быстрою водою.*
*Пэрша кветонька — молода Манечка,*
*О-о-о!*

Ад Марыі Каспэрук 1920 г. нараджэння, якая жыве ў в. Вілянова, грамада Клюковічы, Сямяціцкі павет, запісаў 21 сакавіка 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі запіс зрабіў Сяргей Лукашук.




# ТРАПІЛА КАСА НА КАМЕНЬ

У сям'і Кетасаў усё мусіла быць так, як скажа жонка. Дзе, калі, што рабіць на полі, панадворку ці гумне, што прадаць і купіць, што адзець і што з'есці — аб усім вырашала жонка. Муж быў ціхавата-шматаваты, не ведаў нават, дзе ляжаць хатнія грошы. Быў ён цалкавіта пад жончыным пантофлем. Быў добрым выканаўцам яе загадаў. І зжыўся з гэтым.

У Кетасаў сталі падрастаць дзеці. Янінка была паслухмянай дзяўчынкай. Што праўда, ёй не падабаліся некаторыя загады маці, але каб яе не гнявіць, зносіла іх. Зусім інакш было з Уладкам. Ён быў упарты, станоўчы. Калі стаў кавалерам, і адзяваўся не так, як маці хацела, і калегаў меў не па густу маткі, і з дзяўчынай падружыў не паводле матчынай мыслі. І вось тады пачалася бяда, пачалося пекла ў хаце, пачаўся плач і скрыгат зубамі. Маці ніяк не магла зміріцца з тым, што сын не падпарадкоўваецца ёй. Уладак нарэшце вырашыў пакінуць родную хату. Ажаніўся з Галяй і стаў жыць у яе бацькоў. Маці са злосці не пайшла на іх вяселле і бацьку не пусціла. Сын у разуменні маткі стаў яе ворагам.

Праз нейкі час пачалася і другая бяда. Да дачкі сталі заляцацца хлопцы, але паводле маткі не былі яны годнымі Янінкі. А тыя хлопцы, да бацькоў якіх прыдабралася маці, не наведвалі іх хаты. Але нечакана падвярнулася шчасце. Пасватаўся да Янінкі хлапец з Беластока. Высокі, прыгожы, «салодкі» ў мове. Спадабаўся ён Кетасовай. Праўда, дачка мела да яго шмат засцярог. Перш за ўсё за нахальства і за хітрунства. Але выйшла за яго замуж. Бацькі прадалі двое коней, чатыры каровы, гумно, свіронак і купілі ім у Старасельцах хату. Добры зяць запрапанаваў ім таксама пераехаць да іх у Старасельцы. І яны пераехалі. Зяць пастанавіў купіць легкавую машыну і падгаварыў бацькоў жонкі прадаць хлявы, кусок сенажаці, некалькі гектараў зямлі і сельскагаспадарчыя машыны. Бацькі не паспелі прадаць толькі хату, таму што сын за адзін дзень разабраў, а за другі дзень зладжыў яе на жончынай сялібе. Нічога не маглі зрабіць яму за гэта. Бо і так яго моцна пакрыўдзілі. Усё дачцы і зяцю аддалі. А зяць купіў машыну і раз'язджаў, як пан. Каб цёшча з цесцем не елі дарма хлеба, хутка іх уладзіў на работу і паставіў справу так, што грошы мусяць яны аддаваць на хатнія выдаткі. Кетасова баялася спрачацца з зяцем, таму што ён быў выбуховы, гвалтоўны, хуткі да бойкі. Ім камандаваць цёшча не магла. Больш таго, стала пакорная, стала баяцца яго голасу, стала нават яму дагаджаць, і тады быў ён значна лепшы і да яе, і да жонкі сваёй. Каб цёшча не папракала, што жыве ён у яе хаце, зяць прадаў хату і пабудаваў у Беластоку мураванку. Цёшча даглядала ўнукаў і не магла сабе дараваць таго, што зяць так усіх іх падпарадкаваў свайму нялюдскаму характару. Яна магла пакамандаваць толькі сваім мужам і дачкой, якія наогул нічога не вырашалі ў сямейных справах.

Час ішоў. Памёр цесць. Падраслі ўнукі. Цёшча ўжо мала была патрэбная ўласніку зарабковага таксі. І зяць пазнаёміў цёшчу з багатым адзінокім 70-гадовым дзядуляй, які меў свой прыгожы дом. Падгаварваў зяць 64-гадовую цёшчу выйсці замуж.

— Ён хутка памрэ, а ўсё багацце застанецца, а ў вас ёсць унукі, — даказваў ён цёшчы. Пасля зяць падгаварваў жонку, а нават сваіх дзяцей, каб пераконвалі цёшчу аб патрэбе замужаства з дзядуляй. І цёшчу пераканалі. Яна выйшла замуж за багацце. І стала камандаваць новым мужам, так як тэта, бывала, камандавала сваім першым мужам. Не любіла яго жартаў і залётаў, не зносіла яго старэчых замашак. Думала яна, што хутка дачакаецца смерці дзядулі. А ён жывучы, здаравенны. Дзядуля не зжыўся з новай жонкай і, не пражыўшы з ёю паўгода, выгнаў з хаты Кетасову і падаў на развод. Бяздомная Кетасова стала шукаць літасці ў людзей. Зяць не хоча яе прыняць. А сын, што на вёсцы, можа яе і прыняў бы, але яна сароміцца звяртацца да яго ў гэтай справе. І вырашыла Кетасова прасіць гарадскую раду нарадовую ў Беластоку, каб яна прыдзяліла ёй якінебудзь пакой у старым будаўніцтве. Ходзіць цяпер яна па горадзе і шукае людзей, якія маюць моцныя плечы ў прэзідыуме МРН. А ці знойдзе?

*Міхась Хмялеўскі*




...ў Беластоцкім ваяводстве існуе 1261 гурток ЛЗС з лікам 41707 членаў. 11400 членаў — гэта дзяўчаты і жанчыны.

...дагэтуль ЛЗС-аўцы пабудавалі грамадскім чынам 22 спартыўныя стадыёны, 491 спартыўную пляцоўку да «сяткоўкі», 217 футбольных пляцовак і 42 баскетбольных пляцовак.

...у Беластоцкім ваяводстве на працягу 10 гадоў (1960—1970) лік кніжак узрос з 1.268 тысяч да 2.260 тысяч, а лік чытачоў з 178 тысяч да 300 тысяч. (яц)






 




# ПАМАЖЫЦЕ!

Цэнтр АБС атрымаў трывожны ліст з Храбустоўкі, Гайнаўскага павету. Аўтар яго піша: «Што зрабіць з такой бабай, якая ўсіх апляткоўвае? У нашай вёсцы ёсць такая баба. Яна апляткуе кожнага, без розніцы: малога ці старога. Яна ўзначальвае ў нас штаб «язычнікаў». Цэлымі днямі носіцца яна па сваіх сяброўках. Як паставіць раніцай варыць снеданне, дык датуль пляткуе, пакуль саганы не палопаюць ад адсутнасці вады. Без яе не адбудзецца ні вяселле, ні хрысціны. Яна мусіць там быць, бо без яе ніхто не будзе ведаць, як там было. Яна па вёсцы ходзіць, як ліса, да кожнага падыйдзе, у кожнага выцягне, што ёй трэба. Мае яна сваіх дзяцей, але не глядзіць, што яны вырабляюць, толькі пільнуе чужых. Людзі наракаюць на яе. Не можам даць рады нашай лісе, дык памажыце вы».

Лёгка сказаць: памажыце. А калі яна і нас апляткуе? Мы ж таксама людзі і пляткароў не менш баімося. Лічыце тады ў гэтым толькі на сябе.






— Дарагая, ты карыстаешся вялікім поспехам у мужчын...

## ДЗЕ ДРУГІ БОК

Хлопчык пытае:
— Дзядзька, дзе другі бок вуліцы?
— Ты што, ён насупраць.
— А я ж быў там, дык сказалі, што другі бок тут.

## Талаваломка



Нарысуйце фігуру адной непарыўнай лініяй, не адрываючы алоўка ад паперы.

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:





## КОЛЫ

Гнядым,
Што воз цягнулі ў спякотны час,
З насмешкай колы прарыпелі:
— Цяжар увесь ускладзены на нас,
А вы, скажыце, ад чаго спацелі?...

*А. Махнач*



— Я ж натура.

* * *

— Як ты спаў, сынок, што бачыў у сне? — пытае раніцай маці.
— А што ў такой цемры можна ўбачыць? — адказаў сын.

— Памаўчы хоць з хвіліну, я хачу паслухаць аркестр!

## НЕ НОВАЕ

Настаўнік убачыў рэкламу магнетафона: «З дапамогай магнетафона вы можаце вучыцца ў сне».
— Падумаеш, новасць! — сказаў настаўнік. — Запэўняю вас, што ў маім класе з трыццаці вучняў прынамсі палавіна прымяняе гэты метад без магнетафону.

## ДАВЕДАЎСЯ

— Як сябе адчуваеш?
— Не вельмі... Урач прапісаў мне малочную дыету.
— А гэта так дрэнна?
— Вядома! Цяпер я разумею, чаму нованароджаныя ўвесь час плачуць.

## ЗДАГАДЛІВАЯ СТУДЭНТКА

У адной студэнткі спыталі:
— Што ты робіш, калі канчаецца стыпендыя?
— Хаджу ў госці.

Гумар з барадою

## ДОБРЫ ВЕЧАР

Дзядзька, як толькі сустракаўся з ураднікам — ці то раніцай, ці ўдзень, ці вечарам, — заўсёды казаў:
— Добры вечар...
Урадпік не стрымаў, спыніў дзядзьку і спытаў:
— Ты чаму, калі б не сустрэў мяне, «Добры вечар» кажаш?
— Ды таму, што як убачу вас, у мяне адразу ў вачах цямнее.

## Хто разумней

*Сустрэў я неяк земляка*
*За паркам, збоч дарогі:*
*Ланцуг трымаючы ў руках,*
*Ён крочыў за бульдогам.*
*«Хіба, Ярмола, гэта — ты? —*
*Спыніўся я ў здзіўленні, —*
*У вёсцы ж гэтакіх пустых*
*Не знаў ты захапленняў...*
*А, можа, паляўнічым стаў?*
*Тады прабач за слова...»*
*Ярмола буркнуў:*
*«Цем-на-а-та!*
*Ураз відаць — вясковы...*
*Сабаку трэба паважаць!» —*
*Зямляк заўважыў строга...*
*І распачаў апавядаць*
*Мне пра жыццё бульдога:*
*Дзе нарадзіўся. У якой*
*Сям'і ён гадаваўся.*
*Калі ў кватэрны люкс-пакой*
*Сабака перабраўся.*
*Што есць і як пад коўдрай спіць,*
*Калі хвастом віляе.*
*Зямляк пра цюцьку да драбніц*
*Усё апавядае.*
*«Разумнік! — гладзіць ён яго. —*
*Шукай такіх — не знойдзеш:*
*Скажу: «Кругом!», скажу:*
*«Бягом!» —*
*Не увапрэцца, пойдзе.*
*Бывае, што здаецца мне:*
*Дружыць нам з ім давеку.*
*Ён за другога разумней,*
*Павер мне, чалавека...»*
*І я падумаў: «Дружа мой!*
*Звіхнуўся, не інакш,*
*Калі звяраеш розум свой*
*Па розуме сабачым!»*

*Васіль Маеўскі*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Янкі Панфілюка і яго сяброў Пеці, Колі і Валодзі з Беластока змяшчаем украінскую жартоўную песню:

# ОЙ ЩО Ж ТО ЗА ШУМ УЧИНИВСЯ

Ой що ж то за шум
Учинився,
Що комарик та й на мусі
Оженився! (2)

То взяв собі жінку
Невеличку,
Що не вміе шити-прясти
Чоловічку. (2)

Що не вміе шити-прясти,
Ні варити,
Що не вміе з комариком
Добре жити. (2)

Полетів же комар
В чисте поле,
В чисте поле,
В зелену діброву. (2)

Ой сів же комар
На дубочку,
Звісив свої ніженьки.
На листочку. (2)

Де взялася
Шура-бура,
Вона ж того комарика
З дуба здула. (2)

Ой упав же комар
На помості,
Потрощив-поломив
Ребра й кості. (2)

Прилетіла муха
Жалкувати:
«Ой де ж тебе, комарику,
Поховати?» (2)

«Поховай ти мене
В чистім полі
Та й висип мені
Високу могилу!

Туди будуть хлопці
Ізбиратись,
З комаревої могили
Чудуватись! (2)

«Ой щчо ж то лежить
За покойник?
Ой чи цар, чи гетьман,
Чи полковник? (2)

І не цар, не гетьман,
Не полковник,
А то ж мухи-зеленухи
Полюбовник!» (2)




## ЗАХАПЛЕННЕ З КУР'ЁЗАМІ

Чаго толькі не калекцыяніруюць людзі: маркі і цыгарэты, грошы і запалкавыя этыкеткі, віны і паштоўкі. Ветэрынарны ўрач з венгерскага гарадка Абань Д. Кесеі збірае... цэглу. 400 штук цаглін розных памераў сабраў ён у ваколіцах свайго гарадка. Самая старая з іх пазначана 1688 годам. Выстаўка, наладжаная гарадскім музеем, выклікае цікавасць не толькі ў аматараў кур'ёзаў, але і ў спецыялістаў. Бо ў «важкай» калекцыі Д. Кесеі заключана ўся гісторыя венгерскай цагельнай прамысловасці.

Не менш цікавая і выстаўка люлек з калекцыі муляра Л. Сіксаі. 40 розных цыбукоў, сабраных ім у вобласці Першт, суседнічаюць з люлькамі, вырабленымі з грушавага дрэва з выразанымі на іх барэльефамі многіх вядомых людзей. Самае цікавае, што сам Л. Сіксаі ніколі не курыў люльку.

## РОДЫ Ў САМАЛЁЦЕ

Нядаўна іракскі грамадзянін быў названы Балкан — у гонар балгарскай авіякампаніі. Справа склалася так.

У час палёту самалёта па лініі Касабланка — Алжыр — Афіны ў іракскай грамадзянкі, якая знаходзілася на борце самалёта, пачаліся родавыя схваткі. Пілот Вялічка Іванаў адразу паведаміў аб здарэнні ў Афіны, а бортправадніца Маргарыта Генкава, медык па адукацыі, пачала сачыць за станам будучай маці.

Афінскі аэрадром прыняў балгарскі самалёт без чаргі. Ля пасадачнай пляцоўкі ўжо стаяла машына хуткай дапамогі. Калі парадзіху панеслі да выхаду з самалёта, пасажыры з аблягчэннем пачулі плач дзіцяці...




Шануй старасць! Гэта твая будучыня.